Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Мэтрапалітальны пл. 3/12.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты на 1 год 4 зл 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 2 сьнежня 1932 г. № 33 (63)

## На разьвітаньне.

Пасьля разгрому „Грамады“ ў беларускім руху пад Польшчай настаў цяжкі пэрыад агульнага занападу. З'арганізаваныя ў папярэднія гады грамадзкія сілы расьцярушываліся. Прэса – апрача хадэцкае і дэфэнзыўнае — зусім занікла. Аднак, група беларускіх культурна-нацыянальных дзеячоў, імёны некаторых зьвязаны з усім адраджэнскім рухам сярод беларусаў ад самага яго пачатку, не зламжыла рук, ня ўтраціла веры ў сваю сьвятую ідэю, а распачала нанова працу над арганізаваньнем і ўсьведамляньнем беларускага грамадзянства. Дзеля такое працы неабходны быў нейкі орган друку, які-б праўдзіва асьвятляў нашае палітычнае палажэньне і выяўляў думкі грамадзянства, баламучанага нясумленнымі палітыканамі з далёка не беларускімі мэтамі. Дык вось група культурнікаў і пачала выдаваць сваю газэту—„Беларускі Звон“.

Вера групы ў тое, што заняпад беларускага руху ёсьць толькі часовае зьявішча, апраўдалася. Іменна дзякуючы таму, што былі людзі, каторыя вытрывала, упорліва вялі беларускую работу далей, ня гледзячы на нязвычайна цяжкія варункі беларускае грамадзкае працы наагул, — патроху і ў беларускіх масах зьнікаў дух прыгнечаньня, і грамадзкае жыцьцё ізноў пачало будзіцца. Доказам гэтага ёсьць выхад адразу некалькіх новых беларускіх часопісаў, якія маюць на мэце вясьці палітычную беларускую акцыю.

Дзякуючы гэтаму цяжкі абавязак выдаваць незалежную ад чужых уплываў палітычную газэту, які выпаў на нашу групу, лічым з нас зьнятым, а пастаўленую пры заклазінах „Бел. Звону“ задачу — выпаўненай. Дык і спыняем сяньня далейшы выпуск нашае газэты, каб выкарыстаць нашыя актыўныя сілы ў тэй галіне, у якой яны найпатрабнейшыя: у галіне творчае культурнае працы.

Разьвітываючыся з нашымі чытачамі і супрацоўнікамі, пажадаем ім чым больш сіл да тае працы, аб якой мы ў кожным нумары так упорліва паўтаралі, а такжа нязломнае веры ў бясспрэчную, хоць мо' йшчэ і не такую блізкую перамогу беларускае справы. Верце, працуйце — і „жаданае зьдзейсьніцца“!



## Суд над Тарашкевічам.

28 лістапада адбыўся ў Віленскім Акр. Судзе працэс б. правадыра Грамады, Браніслава Тарашкевіча. Разам з Тарашкевічам на лаўцы падсудных заселі Пётра Бакач, Алякс. Лебецкі, Барыс Махляр, Уладз. Лобка і Міхал Рэшатаў.

Паводле акту абвінавачаньня гр. гр. Тарашкевіч, Бакач, Лебецкі і Махляр вінаваціліся ў тым, што быццам, як сябры кам. партыі, рабілі падрыхтаваньні да аружнага перавароту — у мэтах адарваньня часткі дзяржаўнае тэрыторыі Польшчы і далучэньня яе да СССР. Праступак гэты прадбачаны арт. 101, ч. I Код. Карн.. Гр. гр. Лобка і Рэшатаў належалі да змовы пад назовам «Кам. Партыя Зах. Беларусі», якая мае мэтай таксама—«адарваньне... і далучэньне...» Праступленьне прадбачана арт. 102, ч. I К.К.

У сваіх тлумачэньнях, заняўшых блізу 2 гадзіны, Тарашкевіч заявіў, што такую дзяржаўна-палітычную формулоўку пракурорам мэтаў і задач яго акцыі («адарваньне... і далучэньне»...) ён прыняць ня можа. Галоўная мэта яго акцыі—соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне Беларускага Народу, яго працоўных сялянска-работніцкіх масаў. Іх палітычна-нацыянальнае самаазначэньне—гэта далейшая справа іх уласнае вольнае волі. Тарашкевіч дадаў пасьля, што ён аднак-жа не зьяўляецца „нацыяналістам“, які хоча і лічыць магчымым «зачыніць ці адгарадзіць свой народ ад іншых народаў». Наадварот, сяляне і работнікі ўсіх краёў натуральнай солідарнасьцяй сваіх клясовых інтарэсаў злучацца ў вялікі міжнацыянальны саюз працоўных. Калі гэта ёсьць камунізм, дык да такога камунізму ён прызнаецца. Але-ж такі камунізм падзяляюць усе соцыялісты-марксісты. Далей Тарашкевіч выразна і рашуча заявіў, што ён **не належыць да камуністычнай партыі і ня мае з ёй ніякае арганізацыйнае сувязі.**

З усей масы выданых і распаўсюджаных з подпісам Тарашкевіча лістоў, ліставак, адозваў і артыкулаў ён сам **прызнаў сваімі толькі дзьве адозвы**, у якіх ён—у адказ на атрыманыя з усіх куткоў краю пісьмы—высьветляў, што звольнены быў з турмы без усялякіх захадаў з свайго боку.

Гэта значыць, што **ўсе іншыя адозвы,**— а іх акт абвінавачаньня налічывае аж 11,— **зьяўляюцца сфальшаванымі камуністычнай партыяй і яе мясцовымі хвальваркамі. Кам партыя папросту машэнскім спосабам выкарыстывала імя Тарашкевіча**, якому Грамада здабыла шырокую популярнасьць і давер у беларускіх народных масах, каб «падмураваць» сваю фірму, якая, як відаць, сама — ні на популярнасьць, ні на давер у масах беларускага сялянства не разьлічала... Тарашкевіч выразна сьцьвярдзіў, што **за рэдакцыю** (нячувана хамскую, дадамо ад сябе) **усіх гэтых адозваў**, дзе паміж іншым бэсьціліся асабіста і палітычна гр. гр. Луцкевіч, Астроўскі і іншыя, **ён адказнасьці на сябе не бярэ.** Праўда толькі ў тым, што ён наагул не падзяляў тактыкі і веры гэтых дзеячоў у тое, што шляхам палітычнай умовы можна нешта паважнае і трывалае здабыць ад польскага ўраду для Беларускага Народу ў Польшчы...

Вельмі цікаўны факт, сьцьверджаны самім тым спрытным паліц. камісарам Скальскім, які арыштаваў Тарашкевіча ў гданскім транзытным цягніку ў часе праезду яго праз «польскі калідор»,—што **паліцыя была дакладна павядомлена аб тым, што ў цягніку гэтым едзе Тарашкевіч, хаця Тарашкевіч ехаў пад чужым пашпартам.**

Пракурор у сваей прамове даказываў, што быццам Тарашкевіч быў 100-працэнтным дый актыўным камуністам, што грошы на „падрыхтаваньне“ „адарваньня і далучэньня“ браў з Комінтэрну і т. д. Пракурор навет ня прызнаў у Тарашкевіча ніякіх ідэйных матываў дзеяльнасьці, закідаючы яму звычайны «кар'ерызм» і... любоў да «лёгкіх грошаў і лёгкай славы».

У сваіх прамовах абаронцы далі добры адказ на ўсе гэтыя закіды пракурора, асабліва—на апошнія: «усю кар'еру дый усе карысьці Тарашкевіча, казаў першы абаронца, пакуль што можна збалянсаваць толькі — ў 5-6 гадоў вастрожнай катаргі“... «Хай пан сам спрабуе смак гэтага!»- крыкнуў пракурору Тарашкевіч. „Можна трэбаваць для падсуднага кары,—казаў далей абаронца,—навет кары сьмерці, калі на гэта дае права і падставы пісаны закон. Але ня можна навет п. пракурору паніжаць, абражаць і бэсьціць падсуднага“...

З пункту гледжаньня чыста праўнага абаронцы даводзілі, што навет калі-б Тарашкевіч быў партыйным камуністам **у Гданску**, дык і тады яго ня можна — на точнай падставе як старога, таксама і новага Карнага Кодэксу Польшчы — судзіць за гэта ў Польшчы: камуністычная партыя на тэрыторыі Вольнага Места Гданску існуе і дзее легальна. Але-ж абаронцы, як і сам Тарашкевіч, даводзілі, што ён ня ёсьць камуністам, ня мае партыйнай сувязі з камуністамі і ня браў ад партыі на сваю працу грошаў, маючы іх з законсьпіраванага, заложанага яшчэ да Грамады і пераняўшага астачу грошаў скарбу Беларускае Народнае Рэспублікі ды існуючага ад таго часу заграніцай **„Беларускага Нацыянальнага Фонду“**. У сваіх падрабязных паказаньнях, вельмі карысных для Тарашкевіча, выкліканы як сьведка абароны, грам. Астроўскі, дырэктар дзяржаўнай Белар. Гімназіі ў Вільні, ня толькі сцьвярдзіў існаваньне гэтага фонду, але й заявіў, што ў сваім часе ён сам быў у ліку тых, якія кіравалі гэтым фондам.

Справа зацягнулася да глыбокае ночы. Сабраўшыяся на працэс прадстаўнікі беларускага грамадзянства разыходзіліся дамоў з пэўнасьцю, што прысуд будзе лагодны, калі працэс не закончыцца поўным звальненьнем ад кары. Навет судовы рэфэрэнт санацыйна-дэмакратычнага „Кур. Віленскага“ меў такое-ж уражаньне, бо пісаў: „Судзячы з ходу расправы, трэба спадзявацца лагоднае кары, або апраўданьня“...

Тым часам абвешчаны на другі дзень прысуд **засудзіў Тарашкевіча на 8 гадоў катаржнай турмы**, а тых запраўды-ж паў-дзяцей, якія пасаджаны былі разам з ім на лаўку падсудных,—на розныя меншыя тэрміны вастрогу — ад паўтары да 4 гадоў... Аднак, **судовы прыгавор прызнаў усіх падсудных невінаватымі ў закіданым ім учасьці ў камуністычнай акцыі, к раванай звонку**, а вінаватымі ў тым, што **прыналежылі да самаподнага паўстанчага руху** („irredenty“) **дзеля разбурэньня сілай дзяржаўнага ладу і адарваньня ад дзяржавы часьці яе тэрыторыі** (Заходняе Беларусі). Такім чынам, як піша „Кур. Віл.“, „**палітычна Тарашкевіч выйграў працэс.** Аб гэта яму найбольш ішло. За такую **маральную перамогу** трэба, аднак, пацярпець“.

Абаронца Тарашкевіча заявіў, што падае апэляцыю.

———

зацьверджаны 25 лістапада п. Прэзыдэнтам Рэспублікі з боку Польшчы і ў той жа дзень Калініным у Маскве. Такім чынам Сойм ужо ня будзе мець голасу ў гэтай справе.

Гожа адзначыць, што адначасна падпісана была і дадатковая ўмова паміж гэтымі дзяржавамі — так-званая „концыльяцыйная", ці паразумеваўчая. Умова гэтая прадбачыць стварэньне часовых, або сталай, камісіяў на парытэтных (роўных) падставах, дзе маюць разглядацца дый узгадняцца ўсе спорныя справы паміж Польшчай і СССР.

### Новы загад міністра асьветы.

Згодна з новым загадам мін. асьветы, школьны год мае дзяліцца на два паўгодзьдзі: І-ае—ад 20 жніўня да 22 сьнежня, ІІ-ое —ад 16 студня да 15 чэрвеня. Такім чынам летнія вакацыі будуць пачынацца 15 чэрвеня, а школьны год—20 жніўня. Гэты загад атрымаў ужо сілу, і да Каляд мае скончыцца І-ае паўгодзьдзе, якое дагэтуль канчалася толькі 31 студня.

### Ня зьніжаны цэны — спадае спажыцьцё.

„Статыстычныя Ведамасьці" даюць цікаўныя лічбы аб катастрафічным зьмяншэньні спажыцьця прадметаў першае патрэбы ў Польшчы з прычыны зьбядненьня насяленьня і высокіх цэнаў.

У параўнаньні толькі з мінулым годам зьменшылася спажыцьцё вугальля на 46%, ці блізу напалову, газы — таксама на 46%, цукру—на 20%, солі—на 10%, сернікаў—на 30%, ці блізу на адну траціну. Як бачым, блізу ўсе гэтыя тавары—або дзяржаўна-манапольныя, або „скартэлізаваныя", прычым дзяржава ў гэтых „картэлях" (хаўрусах прамыслоўцаў) адыгрывае рашаючую ролю.

### Адкіненыя пасяганьні.

23 лістапада ў Горадзенскім судзе разглядаліся першыя 22 іскі каталіцкага касьцёлу ў Польшчы—аб адабраньні 23 праваслаўных цэркваў горадзенскай эпархіі. Усе гэтыя іскі суд прызнаў беспадстаўнымі і адхіліў іх.

У той жа дзень пінскі суд таксама прызнаў няважнымі 13 іскаў каталіцкага касьцёлу аб адабраньні праваслаўных цэркваў.

### Хто сядзіць у варшаўскіх вастрогах?

Цікаўныя весткі падала польская прэса аб тым, з якіх „высокіх асоб" складаецца ў нашыя дні насяленьне варшаўскіх вастрогаў.

„За краткамі" сядзяць: двое судзьдзяў, 4 адвакаты, адзін нотарыус, 2 гіпотэчныя пісары, 1 б. віцэ-пракурор, 5 вышэйшых ураdоўцаў, 4 дактары, 6 ведамых усім буйных прамыслоўцаў, 5 арыстакратаў з княжаскімі ды графскімі тытуламі, 9 ведамых багатых купцоў, 1 камісар паліцыі, 3 банкіраў і 4 уласьнікаў вялізарных даходных камяніц.

Уся гэтая невялікая, але запраўды-ж „дабраная кампанія" сядзіць за ўчасьце у небясьпечных крымінальных афэрах вельмі шырокага размаху... „Наагул, — дадае ад сябе польская газэта, — зьвяртае на сябе ўвагу факт, што ў вастрог трапляе ўсё больш і больш людзей з высокіх становішчаў дый з найлепшых (?) колаў грамадзянства"...

Характэрная адзнака часу...



## З жыцьця ў Б. С. С. Р.

### Палякі ў Б. С. Р. Р.

Паводле афіцыяльных даных у Савецкай Беларусі жыве ўсяго 98.000 палякоў, што складае каля 2% усяго насяленьня краю. Польская газэта, падаючы гэтую лічбу, кажа, што „перад рэвалюцыяй палякоў на тым жа прасторы было ўдвая больш", ці—4% („Кур. Варш."). Ад 1929 г. савецкая ўлада пачала ўсілена тварыць польскія пляцоўкі ў Сав. Белзрусі. Так было створана шмат польскіх калгасаў, урэшце навет — цэлы асобны „Койданаўскі Польскі раён"—пры самай польскай граніцы, уздоўж чыгункавай лініі Менск-Негарэлае. Раён гэты перайменаваны ў апошні час у „Раён імя Дзяржынскага". Праўду кажучы, аб нейкіх палякох у Койданаўскім раёне дагэтуль ня было чуваць; правільней: жылі там адвеку кроўныя беларусы. Але-ж вось, менскія (хіба-ж маскоўскія?) валадары нагналі сюды шмат польскіх камуністаў з іншых раёнаў, нарабілі „польскіх калгасаў" дый абвясьцілі раён „польскім", распачаўшы ў ім „будову соцыялістычн. польскага грамадзянства". І вось —распачалася ў гэтым беларускім раёне Савецкае Беларусі масовая полёнізацыя беларусаў,—запраўды-ж — „у імя Дзяржынскага"... У ягоным раёне ўжо напладзілася 226 польскіх пачаткавых школ, 31 польская вышэйшая народная школа, рознага роду польскія „тэхнікумы" з курсам сярэдняе школы: пэдагогічныя, сельска-гаспадарчыя і інш., а таксама—шмат розных курсаў, аддзелаў і т. д. Цяпер улады маюцца залажыць у Менску навет польскі Пэдагогічны Інстытут. У ліпні адчынены ў Менску навет асобны дзяржаўны польскі тэатр — у гмаху каталіцкага касьцёлу на „Савецкай" (б. Захараўскай) вуліцы. Есьць у Менску, як ведама, і сталая польская газэта „Орка", якая друкуецца ў ліку 10.000 экз.

Калі-б 2 з гакам мільёны бясспрэчных беларусаў у Польшчы мелі хаця-б палову тых асьветных пляцовак, якія штучна створаны для сумліўных 98 тыс. „палякоў" у Савецкай Беларусі, дык беларускае культурна-нацыянальнае жыцьцё і разьвіцьцё атрымала-б моцныя падставы ў роднай школе, і беларусы ў Польшчы ня мелі-б ніякіх прычын скардзіцца на свой лёс...

**Бацькі!**

**Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!**

для яго носа. Вочы яго заблішчалі, і, трывожна зірнуўшы на вокны, Рыбс адышоўся з бутляю ў куток.

— Баўтрук! — зьвярнуўся ён да аднаго з арыштаваных:—ідзі сюды—панюхай!

Уся кампанія зьбілася каля Хаіма і Баўтрука. Баўтрук, чуць толькі пацягнуўшы сваім дасьледчым носам, адразу зьмяніўся з твару, і вочы яго таксама кінулі іскры.

— А брат ты мой: самагон!

— Ну, і што будзем рабіць? — спытаў квартальны.

— Мы былі-б найбольшымі дурнямі ў сьвеце, каб ня ведалі, што тут рабіць. Дазволіш?

І, не чакаючы дазволу, Баўтрук паднёс бутлю ў сваю пастку. Рассмакаваўшы першы глыток, Баўтрук як, цяля да каровы, прыпаў да бутлі. Хаім Рыбс і ўся кампанія, здаецца, прыліплі вачамі да гэтай бутлі і самі цягнуліся да яе рукамі.

— Агонь! Сьпірытус!—натхнёна закрычаў Баўтрук, перадаючы бутлю Хаіму Рыбсу.

— Ах, родненькія мае! штось жывое, лагодненькае разьліваецца ў вантробах... Багаслаўлёны-ж няхай будзе час, у які я пазнаў цябе, сьвятая халодная, няхай будзе багаслаўлёна тая рука, што ўпіхнула мяне сюды. Багаслаўлёны будзь і ты, Хаім Рыбс, наш вялікі квартальны.

А Хаім Рыбс тымчасам цягнуў з бутлі, прыліпшы да яе, як п'яўка. Ледзьве адарваўся...

— На, Тамаш, пацягні,— сказаў ён суседу, а сам з вялікім здаволеньнем пагладжваў свой жывот.

— Уй, добра! Уй, прыемна!

Бутля абышла ўвесь круг. Усе прыпадалі да яе, як да збавеньня. Твары праясьняліся, языкі разьвязваліся, гаворка павялася ўсё мацней і мацней. Пасьля другога кругу ў бутлі засталося зусім мала, затое-ж усе арыштаваныя былі нязвычайна вясёлыя, душы іх адчыняліся, і, як аказалася, усё гэта былі душы ня простыя, а душы нязвычайнай дабраты і вялікай вартасьці. Цяпер гата ўсё былі брацьці і сёстры, гатовыя пайсьці на крыж адзін за другога. Халодная напоўнілася шумам, гоманам, і далёка па мястэчку нёсься гэты гармідар п'янай кампаніі. Дзьве кабеты, пабраўшыся за рукі і прыпёршыся да сьцяны — стаць пасярэдзіне не адважыліся, бо ня было веры ў крэпасьць сваіх ног,—тупалі нагамі, скакалі і падпявалі самі сабе.

— Таварышы! — гукнуў Хаім Рыбс, — мяне пасадзілі сюды за вас, бо я стаяў на варце вашых інтарэсаў. Няхай мяне садзяць кожны дзень, я не пайду процій свайго народу, не пашлю яго на работу...

— Ты маладзец, дальбог, маладзец!

— Слухайце, слухайце! — крычаў Хаім Рыбс.—Я не спаўняў прыказаў, я—саботажнік, я — арыштант, але я пачаставаў вас самагонам...

Хаім Рыбс ня скончыў свайё прамовы і пачаў рагатаць.

І ўсе рагаталі разам з ім, а чаго? ня ведалі і самі. Потым Хаім раптоўна і ні для каго нечакана завёў:

Іх віл зінген фрэліхэ лідэр,
Лям-там тыдры, лям-там-там!
Трынкт зэ бранфэн, лібэ брыдэр!
Там-там тыдры, тыдры-драм!

Я запяю вам вясёлую песьню (прыпеў).
Пеце гарэлку, мілыя брацьці (прыпеў).

Паміж арыштаваных падняўся нязвычайны шум, усё грымела і дрыгацела.

— Што ў вас тут за кірмаш?! — дзьверы халоднай адчыніліся, і на парозе стаяў старшы міліцыянэр з двумя памоцнікамі!

Зірнуўшы на скрыню і ўгледзіўшы пустую бутэльку ад самагону, міліцыя сьцяміла ўсё. Па тым, як зьмяніліся іх твары, можна было дагадацца, што гэтая бутля была ў міліцыі на „строгім вучоце" і што нейкі выпадак, нейкая абмылка пакінула тут самагон.

Страшэнны гнеў і абурэньне ахапіў аглядчыкаў парадку. Ускочыўшы ў халодную, пачалі яны шпоўхаць арыштаваных. Старшы міліцыянэр ад злосьці ня мог стрымацца і гукнуў:

— Адчыняй дзьверы і гані вон гэтую сволач!

Дзьверы адчынілі і арыштаваных у карк павыганялі з халоднай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хаім Рыбс успамінае ўсё гэта са сьмехам і любіць апавядаць, як ён быў квартальным.

КАНЕЦ.



